ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 16(5198)
Чацвер,
8 лютага
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 48 руб.*

Навіны

## Фінансавая дапамога таленавітым навучэнцам і студэнтам

***Сваім распараджэннем кіраўнік дзяржавы зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта краіны па сацыяльнай падтрымцы таленавітых навучэнцаў і студэнтаў. Згодна з гэтым дакументам, будзе аказана фінансавая дапамога творчым аб'яднанням адукацыйных устаноў для ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай і метадычнай базы, прэміравання навучэнцаў, студэнтаў, навуковых кіраўнікоў, выкладчыкаў і супрацоўнікаў, якія ўнеслі асабісты ўклад у іх эфектыўнае функцыянаванне.***

Сродкі ад 2 да 10 мільёнаў рублёў выдзелены сямі такім аб'яднанням. Самую вялікую суму атрымае творчае аб'яднанне Мінскага Палаца дзяцей і моладзі. Па 4 мільёны рублёў будзе выдзелена студэнцкай лабараторыі "Інфармацыйныя камп'ютэрныя тэхналогіі" БДПА, студэнцкай навукова-даследчай лабараторыі "Камп'ютэрны аналіз і мадэліраванне" БДУ і студэнцкаму навуковаму калектыву "Азон" Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта. Тры мільёны заслужылі члены студэнцкай навукова-даследчай лабараторыі "Паўправадніковыя лазеры" БДУ. Па два мільёны атрымаюць творчае аб'яднанне вучняў сталічнай сярэдняй школы № 190, навукова-даследчае аб'яднанне "Тэхналогія і фізіка металаў" Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў і студэнцкая навукова-даследчая лабараторыя "Камп'ютэрнае мадэліраванне тэхналагічных працэсаў" Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.

Грашовымі прэміямі ў памеры 60 тысяч рублёў кожная будуць узнагароджаны 22 навучэнцы і студэнты розных навучальных устаноў.

**БЕЛТА.**

## Створана Беларускае аб'яднанне настаўнікаў інфарматыкі і матэматыкі

***31 студзеня 2001 года ў адукацыйным цэнтры "Надзея-21 стагоддзе" пад Вілейкай адбылася ўстаноўчая канферэнцыя грамадскага аб'яднання настаўнікаў матэматыкі і інфарматыкі.***

У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі (за выключэннем Гомельскай). Сярод удзельнікаў былі настаўнікі, метадысты, аўтары школьных падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па матэматыцы і інфарматыцы, спецыялісты ўстаноў адукацыі, рэдактары спецыялізаваных навукова-метадычных выданняў, члены журы рэспубліканскіх алімпіяд.

У выніку інтэнсіўных дыскусій, творчых дэбатаў, шматлікіх цікавых выступленняў былі вызначаны асноўныя напрамкі работы ствараемай арганізацыі і прыняты яе статут.

Прэзідэнтам грамадскага аб'яднання аднагалосна абраны доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, аўтар школьных праграм і падручнікаў А. І. Таўгень. Алег Ігнатавіч з'яўляецца рэктарам Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

Удзельнікамі канферэнцыі было выказана шмат вельмі цікавых прапаноў і ідэй па будучай дзейнасці арганізацыі — абагульненне і распаўсюджанне перадавога вопыту; арганізацыя навукова-метадычных канферэнцый, семінараў; выдавецкая дзейнасць, распаўсюджанне сучасных адукацыйных тэхналогій, у тым ліку інфармацыйных, і многае іншае. Пра тое, як праходзіла канферэнцыя, "НГ" раскажа ў адным з бліжэйшых нумароў.

Для ўсіх зацікаўленых у далейшай дзейнасці арганізацыі паведамляем яе каардынаты: Мінск, вул. Някрасава, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, тэл. 285-78-52.

На шляхах рэформы

## Служыць — Радзіме!

***На Капыльшчыне нямала навучальных устаноў сістэмы адукацыі, якія супрацоўнічаюць з ВНУ нашай краіны. Так, пры сярэдняй школе № 1 райцэнтра адкрыты і вось ужо чацвёрты год паспяхова дзейнічаюць ваенна-патрыятычныя класы, пры сярэдняй школе № 2 Капыля — медыцынскія і педагагічныя, пры сярэдняй школе № 3 — эканамічныя.***

Пацейкаўская і Быстрыцкая адзінаццацігодкі наладзілі цесны кантакт з Гродзенскім аграрным універсітэтам, Старыцкая, Быстрыцкая, Цімкавіцкая і Лясноўская сярэднія школы — з Беларускім аграрна-тэхнічным універсітэтам.

Сярэдняя школа № 1 — адна са старэйшых у раёне. У народзе яе любоўна называюць беларускай. У красавіку сёлетняга года школе спаўняецца 100 гадоў, а ў верасні яе разлічваюць перапрафіляваць у гімназію. Гэта адна з перспектыў самай бліжэйшай будучыні.

Навучальны год настаўнікі і вучні пачалі ў новай сучаснай прыбудове, дзе шмат светлых класаў, кабінетаў. Ёсць сталовая, актавая і спартыўная залы, прасторныя фае і калідоры.

Сёння школа адметная і тым, што пачаткоўцы ўкараняюць тут у практыку работы новыя тэхналогіі — "Крок за крокам" і тэхналогію развіццёвага навучання Эльконіна-Давыдава. Настаўнікі замежнай мовы авалодваюць элементамі тэхналогіі поўнага засваення і рознаўзроўневага навучання. А яшчэ, як адзначана вышэй, існуюць у навучальнай установе і ваенна-патрыятычныя класы. Пра іх і хацелася б расказаць больш падрабязна.

Не сакрэт, што ў сілу шматлікіх аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын, эканамічных і палітычных перамен прафесія афіцэра ў апошні час стала менш прэстыжнай. Але, як вынікае з гутаркі з вучнямі 11 "Б" класа Сяргеем Дземідзенкам, Сяргеем Бураком, Аляксеем Навуменкам, Алегам Цвіркам і іншымі, яны даўно хочуць быць ваеннымі людзьмі, служыць Айчыне. Ажыццяўляючы сваю мару, вучні і выраішылі пайсці ў ваенна-патрыятычны клас, дзе займаюцца ўжо другі год.

У дзесятым класе цяпер дзесяць чалавек, у адзінаццатым — чатырнаццаць, з іх пяць — дзяўчынак. Апошнія разлічваюць атрымаць глыбокія веды па фізіцы і матэматыцы, якіх у тыдзень, адпаведна, пяць і дзевяць гадзін. А яшчэ падлеткі вывучаюць мовы, займаюцца спецпадрыхтоўкай, фізічнай культурай і спортам.

Выкладанне вучэбных прадметаў вядуць вопытныя педагогі Зоя Уладзіміраўна Сыс, Людміла Мікалаеўна Галуза, Ніна Васільеўна Зубарык, Аляксандр Яўгенавіч Мардасевіч і іншыя.

Па выніках другой чвэрці дзевяць вучняў маюць адзнакі "4" і "5", больш 80 працэнтаў вучняў усё таго ж 11 "Б" ведаюць, напрыклад, фізіку на добра і выдатна.

Два разы ў год хлопцы наведваюць свае будучыя "альма-матэр" — камандна-інжынерны інстытут Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і Ваенную акадэмію краіны. Яны знаёмяцца з умовамі жыцця і вучобы курсантаў, аглядаюць ваенную і спецыяльную тэхніку. Менавіта апошняя ў прыкідцы да узроўню набытых уласных ведаў і вызначае іх выбар ваенізаванай ці воінскай службы, адпаведных факультэтаў.

Дырэктар школы Зінаіда Васільеўна Прыміч зазначае: "Лічу, што ў нашай адзінаццацігодцы патрыятычнае выхаванне — на належным узроўні. І гэта не абмяжоўваецца наяўнасцю ваенна-патрыятычных класаў. Выхаванне любові да роднай Бацькаўшчыны, блізкіх — вось толькі некалькі састаўных вялікай работы нашых педагогаў па патрыятычным выхаванні падлеткаў і моладзі. У рэшце рэшт, патрыятызм — гэта альтэрнатыва бездухоўнасці, жорсткасці, культу насілля. А высокая духоўнасць і грамадзянскія пазіцыі будуць садзейнічаць рашэнню агульнанацыянальных задач".

Мне давялося назіраць, з якім стараннем і цікавасцю дзеці авалодваюць прадметамі. Па словах педагогаў, падлеткі літаральна на вачах становяцца дарослымі. Вось чаму адкрыццё ваенна-патрыятычных класаў нельга назваць выпадковасцю. Гэта патрабаванне сённяшняга дня. Хтосьці ж павінен нас абараняць і нам дапамагаць?

**Мікалай ЛОСІК,**
**арганізатар аддзела адукацыі Капыльскага райвыканкама,**
**член Саюза журналістаў РБ.**

НА ЗДЫМКУ: урок фізікі ў сярэдняй школе.

**Фота Івана ІГНАТЧЫКА.**

Падрабязнасці для "НГ"

## Піраміда кіравання і якасць кантролю

***"Сучасныя тэхналогіі кіравання школай" — пад такой назвай прайшоў семінар на базе гімназіі № 7 Мінска, арганізаваны па ініцыятыве асацыяцыі дырэктараў агульнаадукацыйных устаноў Рэспублікі Беларусь. Акрамя дырэктараў школ, у семінары прынялі ўдзел дэлегацыя з Украіны на чале з Аленай Онаць, прэзідэнтам асацыяцыі кіраўнікоў школ Украіны, дырэктарам школы № 41 Кіева, а таксама Гэйз Дорэнбош, старшыня асацыяцыі дырэктараў школ Галандыі, і Герман Босман, кіраўнік праекта "Усход — Еўропа" з той жа краіны.***

Размова ішла пра кіраванне якасцю адукацыі. "У працэсе кіравання сістэмай адукацыі вялікае значэнне маюць аналіз, вызначэнне мэты, планаванне, прыняцце рашэння, арганізацыя, кантроль, — сказаў намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.Дылян. — Выключэнне адной з гэтых функцый парушае цэласнасць працэсу кіравання. Яшчэ існуе група скразных функцый, такіх як каардынацыя, рэгуляванне, стымуляванне і інш. Я лічу, гэтая мадэль адпавядае нашым мэтам і задачам, спецыфіцы кіравання нашымі сістэмамі адукацыі, калі гэта педагагічная сістэма (адна ўстанова) ці сістэма раённага, абласнога, рэспубліканскага ўзроўню". Г.Д.Дылян зазначыў, што, пастаянна наведваючы школы, ён ні разу не бачыў адзінага падыходу да кіравання: большасць тэорый без уліку спецыфікі сістэмы адукацыі механічна пераносіцца кіраўнікамі ў практычную дзейнасць.

У сваім выступленні ён засяродзіў увагу на функцыі кантролю — кантролю менавіта аднаго накірунку — якасці адукацыі. Таксама былі вызначаны асаблівасці кіравання якасцю адукацыі. Гэта адна з асноўных мэтаў рэформы школы.

Давайце прааналізуем, прапанаваў Г.Д.Дылян, як на ўзроўні школы мы кантралюем якасць адукацыі. У нас ёсць сістэма кантрольных работ, сістэма школьных алімпіяд. Ёсць паказчыкі паступлення ў ВНУ і інш. Але ж канкрэтнай, адладжанай сістэмы кантролю за якасцю адукацыі ў школе няма. У раёнах якасць адукацыі амаль не кантралюецца. На ўзроўні гарадоў, вобласці, міністэрства сістэмы такога кантролю практычна няма. Таму апошні час мы актыўна працуем над праблемай сучасных педагагічных тэхналогій.

Каб дакладна вызначыць сістэму кантролю за якасцю адукацыі, сказаў намеснік міністра, неабходна вызначыць функцыі па кантролю, Міністэрства ж рэгулюе стандарт, які з'яўляецца асновай. На абласным і раённым узроўні гэтая пазіцыя ўзмацняецца. Ажыццяўляецца выбарачны кантроль з выхадам на асобныя школы. Але ж у асноўным кантроль ажыццяўляе сама школа. Вельмі важным пытаннем семінара стала праблема дэмакратызацыі кіравання сістэмай адукацыі. Пра яе павёў размову намеснік дырэктара Нацыянальнага інстытута адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.М.Пятроўскі. "Дэмакратычнасць сістэмы адукацыі, — сказаў ён, — гэта ў першую чаргу баланс правоў і абавязкаў усіх суб'ектаў сістэмы адукацыі. Гэтыя правы і абавязкі павінны быць нарматыўна замацаваны. У нашай краіне яны, здавалася б, рэгулююцца Законам аб адукацыі і шматлікімі палажэннямі, але ж часта здараецца, што якая-небудзь норма прапісана, а шляхоў яе рэалізацыі няма. Праблема размеркавання правоў і абавязкаў патрабуе вялікай увагі і падыходу да яе з новых, сённяшніх пазіцый. Мы павінны дабіцца, каб правы аднаго суб'екта сістэмы адукацыі стала абавязкам другога. Калі мы кажам, што вучань мае права на выбар узроўню і накірунку адукацыі, значыць сістэма адукацыі павінна даць яму магчымасць для рэалізацыі гэтага запыту. Калі гэтага няма, права на выбар адукацыі — не больш чым дэкларацыя. У першую чаргу гэта тычыцца праблемы сельскай школы і школ малых гарадоў.

У сістэме адукацыі, як вядома, два галоўныя суб'екты — вучань і педагог. На першае месца Генадзь Мікалаевіч ставіць вучня. Ці мае права вучань выбраць сабе настаўніка? Ці мае права настаўнік адмовіцца вучыць таго ці іншага вучня? Цяжка адназначна адказаць. Г.М.Пятроўскі лічыць, што калі мы вядзем размову аб дэмакратычных механізмах кіравання, то адказ павінен быць.

Што трэба кантраляваць у дэмакратычнай сістэме: працэс ці вынік? Гэта дыскусійнае пытанне. Генадзь Мікалаевіч лічыць, што першым павінен быць кантроль выніку. Калі вынік задавальняе, калі ў яго верагоднасці можна пераканацца, далей ісці не абавязкова. Калі не, трэба кантраляваць і працэс. "Можа існаваць школа, якая працуе на даверы, школа можа быць пад перыядычным і пастаянным кантролем. Калі мы ўключаем педагога, напрыклад, у рэжым перыядычнага кантролю, то павінны растлумачыць, абгрунтаваць, чым выклікана такая форма ўзаемадзеяння з ім".

Г.М.Пятроўскі лічыць, што трэба ўзнавіць вертыкаль пераемнасці: міністэрства — абласное упраўленне — раённы аддзел — школа, якая аказалася падарванай у выніку прыняцця ў 1992 годзе закона аб мясцовым самакіраванні; аднавіць сістэму двайнога падпарадкавання настаўніка, узмацніць функцыі дырэктара ў адносінах да настаўніка, функцыі раённага аддзела адукацыі ў адносінах да школы. Правы дырэктара ў гэтай пірамідзе кіравання павіна існаваць не толькі ўніз, але і ўверх.

Я вырашыла пацікавіцца непасрэдна ў кіраўнікоў школ, з якімі праблемамі ім даводзіцца сутыкацца на практыцы, што найбольш важным лічаць яны ў сваёй кіраўніцкай дзейнасці, што хацелі б змяніць.

— Галоўная праблема ў тым, — сказала дырэктар школы №41 Кіева, прэзідэнт асацыяцыі школ Украіны, член калегіі Міністэрства адукацыі і навукі Украіны, галоўны рэдактар газеты "Дырэктар школы" Алена Мікалаеўна Онаць, — што трэба мяняць функцыі дырэктара. Гэта павінен быць менеджэр, арганізатар, які павінен умець выжываць у рыначных умовах. Ён павінен вучыцца бачыць усё новае і навучыць гэтаму калектыў. Да дырэктара прад'яўляюцца завышаныя патрабаванні, а правоў мала, што перашкаджае вырашаць многія пытанні.

— У дырэктара асноўная праблема сёння — фінансавая, — лічыць Лідзія Міхайлаўна Ліванец, дырэктар гімназіі № 7 Мінска. — На жаль, сёння мы больш займаемся гаспадарчай дзейнасцю, чым методыкай. Добра, калі атрымліваецца сумяшчаць і тое і другое.

— Канешне, вельмі важнымі з'яўляюцца пытанні якасці адукацыі, дэмакратызацыі і інш. Але калі вучань сёння галадае, не мае нармальнага адзення, каб пайсці ў школу, як гэта назіраецца ў многіх вучняў нашай школы, то на першы план выходзіць клопат сацыяльны, — адзначае Тамара Фролаўна Калацэй, дырэктар школы-цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі № 10 Мазыра. — Таму ў першую чаргу я як кіраўнік больш займалася наладжваннем сувязей з гуманітарнымі таварыствамі, дзіцячымі фондамі, каб забяспечыць дзяцей адзеннем, абуткам і інш. Тады ўжо паўстае наступнае пытанне — пытанне навучання.

— Праблемы, якія вы абмяркоўваеце, вельмі актуальныя сёння, — лічыць старшыня асацыяцыі дырэктараў школ Галандыі Гейз Дорэнбош. — Над праблемай дэмакратызацыі мы таксама працуем. Агульнае ў нас з Беларуссю ў рабоце з дзецьмі тое, што і ў вас. І ў вас ёсць вучні, якія не жадаюць вучыцца, ужываюць наркотыкі, ёсць і тыя, каму цяжка даецца вучоба.

Такія семінары — гэта своеасаблівыя курсы павышэння кваліфікацыі для кіраўнікоў навучальных устаноў. Праз такія сустрэчы і абмен вопытам трэба шукаць магчымасць вырашэння праблем.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

Слова пра настаўніка

## Лепш адзін раз убачыць...

***16 лістапада 2000 года Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі намесніку дырэктара па вучэбнай рабоце Мінскага ПТВ-9 машынабудавання Яніне Іосіфаўне Макарэвіч прысвоена званне "Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь"***

Настрой быў светлы, нават ўрачысты. Але, між тым, у душы варушылася нейкая трывога. Трывога, уласцівая, бадай што, кожнаму з нас перад сустрэчай з невядомым, з новымі людзьмі. Праўда, правядзенне школьных урокаў для Яніны Іосіфаўны Макарэвіч не было навіной. Яна неаднойчы рабіла гэта ў час вучэбнай і пераддыпломнай практыкі, і атрымлівалася ў яе, на думку універсітэцкіх выкладчыкаў, вельмі добра. Але вераснёўскім днём, 29 гадоў таму, ёй трэба было ўпершыню ўвайсці ў клас у якасці паўнапраўнага выкладчыка беларускай літаратуры, зрабіць самастойны крок па абраным шляху настаўніцтва. Які ён будзе? Дырэктар школы прадставіў маладога педагога вучням-дзесяцікласнікам і пайшоў па сваіх справах. А яны працягвалі знаёмства. Перад настаўніцай сядзелі амаль дарослыя людзі, розніца ва ўзросце — пяць-шэсць гадоў, у вачах кожнага — непрыхаваная зацікаўленасць яе асобай.

— Можа, у вас да мяне ёсць пытанні? — усміхнулася Макарэвіч. — Калі ласка, задавайце.

І не памылілася. Пытанняў было шмат, самых розных. Дзе нарадзілася, дзе вучылася, што любіць чытаць, нават — ці замужам?

Адказвала шчыра, як раўні. Той урок прайшоў, можа, не зусім па плану, але ён стаў асновай узаемаразумення, якое ў хуткім часе ўсталявалася паміж настаўніцай і вучнямі.

Інакш і не магло быць, бо выбар прафесіі ў Яніны Іосіфаўны не быў выпадковым, маўляў, абы атрымаць вышэйшую адукацыю, а там — жыццё пакажа, як быць далей, куды падацца. Не, настаўніцтва наканавана ёй самім лёсам, як кажуць старыя людзі — у яе планіда такая.

Яшчэ ў раннім дзяцінстве яна вельмі любіла гуляць "у школу". У тую пару і напаткала яе вялікая крыўда — не прымалі ў сапраўдную. Як жа так? Яна ўжо ўмела лічыць, чытаць і пісаць, а ёй, як кажуць, ад варот паварот. Дырэктар меў рацыю: дзяўчынцы не было яшчэ патрэбных для першакласнікаў сямі гадоў. Колькі было праліта горкіх слёз з гэтай нагоды! Упартая дзяўчынка, аднак, разам са старэйшымі за яе на год дзецьмі пайшла ў першы клас. Села за парту і пачала выконваць усё тое, што і вучні. І так з дня ў дзень. Яе прозвішча ў класным журнале не было. Вось так і з'явілася "вольная слухачка-першакласка".

Мінуў месяц. Што было рабіць з няўрымслівым дзяўчом! Не выводзіць жа кожны дзень яе з класа за ручку. Унеслі нарэшце ў спіс вучняў. І не памыліліся. Яна была здатная і да ведаў, і да грамадскіх спраў, дома па гаспадарцы дапамагала і, калі трэба было, да калгаснай працы рукі прыкладвала. Руплівасць, працавітасць яна ўспадчыла ад сваіх бацькоў, якія жылі і сына з дачкою кармілі, адзявалі толькі са свайго мазаля. Іосіф Іосіфавіч працаваў кавалём у роднай вёсцы Малая Ужанка, што ў Нясвіжскім раёне. Людзі старэйшага ўзросту добра ведаюць, што азначаў чалавек гэтай прафесіі ў нялёгкія пасляваенныя гады. Калгас без яго як без рук. Дый амаль кожная сям'я без яго не абыходзілася — то серп трэба зрабіць, то плуг ці барану зладзіць. Праца ад цямна да цямна. Гэтак жа шчыравала на грамадскіх палетках і маці — Марыя Паўлаўна. Так і іх дачка ўсё жыццё спадзяецца толькі на сябе, на сваю працу. Таму нават у спорце дасягнула нядрэнных вынікаў: першы разрад па лыжах і веласіпедзе. Між іншым, многія раілі пасля школы паступаць у інстытут фізкультуры. Але прыхільнасць да роднай мовы і літаратуры перамагла. Яніна Макарэвіч скончыла філалагічны факультэт БДУ і прыехала працаваць на Браслаўшчыну, у сярэднюю школу ў вёсцы Барадзінічы. Трэба сказаць, што ў выбары спецыяльнасці вялікае значэнне меў прыклад яе школьнай настаўніцы і класнага кіраўніка Ніны Мікалаеўны Баханько, якая вучыла іх любіць роднае слова. Яна была не толькі Прафесіяналам з вялікай літары, але і мудрым дарадцам, сапраўдным старэйшым сябрам. Калі патрабавалі абставіны, магла быць і строгай. Яніна Іосіфаўна і сёння з вялікай цеплынёй успамінае яе. З цеплынёй і смуткам. Са смуткам, бо два месяцы таму Ніна Мікалаеўна памерла. Тое, што большасць былых аднакласнікаў Макарэвіч прыехала праводзіць сваю настаўніцу ў апошні шлях, гаворыць само за сябе. І гэта ў наш складаны час, калі нават сваякі сваякоў цураюцца.

Яніна Іосіфаўна многае пераняла ў сваёй любімай настаўніцы. Тая ж адданасць справе, якой прысвяціла жыццё, высокая патрабавальнасць да сябе. Напрыклад, яна не толькі выдатна ведае мову і літаратуру, а і сама пісала вершы, але, як кажуць, для душы: друкаваць іх не спрабавала, бо не лічыць, што яны гэтага вартыя.

Вось ужо дваццаць тры гады яна выкладае беларускую мову і літаратуру ў Мінскім ПТВ-9 машынабудавання. У той час, калі яна прыйшла сюды, некаторыя навучэнцы наогул не вывучалі родную мову. У іхніх школьных пасведчаннях стаяў прочырк. Пачынаць было нялёгка. Па-першае, і тады, і цяпер Яніна Іосіфаўна стараецца давесці да кожнага навучэнца, што ў большасці нашы суайчыннікі размаўляюць не на беларускай мове, а на нейкай трасянцы з рускіх, беларускіх, украінскіх, а часам і польскіх слоў. А наша мова мілагучная, чыстая, як нашы рэкі і азёры.

У свой час Адам Міцкевіч чытаў лекцыі ў Парыжы. Ён назваў нашу мову самай меладычнай, трапнай з усіх усходнеславянскіх моваў. Цяжка ўявіць, што наша мова была ў загоне, але выжыла на радасць усім нам. Мова — гэта душа народа, менавіта на ёй ствараюцца шэдэўры сусветнага значэння. Ні адзін пісьменнік або паэт не напісаў вельмі значнага твора на чужой мове. Напрыклад, Пушкін добра ведаў французскую, але вершы, напісаныя на ёй, былі вельмі пасрэдныя. Тое ж тычыцца і рускіх вершаў нашага Максіма Багдановіча. Мы — не Іваны Бязродныя.

Пра гэта часта нагадвае навучэнцам Яніна Іосіфаўна. Іншы раз яна прама ці ўскосна пытае, ці хочуць яны, каб іх паважалі ў свеце. Усе, зразумела, даюць сцвярджальны адказ. Але для гэтага трэба навучыцца паважаць сябе, ганарыцца тым, што нам выпала беларусамі звацца. Трэба памятаць, што наша зямля нарадзіла Францыска Скарыну, Коласа і Купалу, Караткевіча і Быкава, і многіх, многіх іншых, кім ганарыцца не толькі люд беларускі. Выхаванне грамадзянскай самасвядомасці — вось стрыжань намаганняў Яніны Іосіфаўны. Дзеля гэтага варта жыць і працаваць.

У ПТВ-9 ёсць тое, чым не можа пахваліцца, бадай што, ніводнае аналагічнае вучылішча беларускай сталіцы. Тут створаны музей "Беларуская хатка", дзе сабраны разнастайныя этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы. Дарэчы, яны сюды прывезены ў асноўным самімі навучэнцамі, з поспехам выкарыстоўваюцца ў навучальным працэсе.

Сюды дзверы заўсёды адчынены, будзе вольная часіна — прыходзьце. Як кажуць, лепш адзін раз убачыць, чым многа разоў пачуць.

Чатыры гады таму Яніна Іосіфаўна была прызначана намеснікам дырэктара вучылішча па вучэбнай рабоце. Клопату прыбавілася, але яна па-ранейшаму выкладае родную мову і літаратуру.

Вось што сказаў мне яе калега — намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце Юрый Савельевіч Корчык:

— Яніна Іосіфаўна — гонар нашага вучылішча. Сваім багатым вопытам яна дзеліцца не толькі з выкладчыкамі вучылішча, але і з работнікамі прафтэхадукацыі горада. Яна ўвесь час у пошуку лепшых варыянтаў правядзення выхаваўчай і навучальнай работы, з душою адносіцца да навучэнцаў, а яны гэтак жа ставяцца да яе.

**Фёдар ПРАТАСЕНЯ.**

Рэдакцыі адказваюць

## "Чаму ж харчаванне не рацыянальнае?"

Аддзел адукацыі Бешанковіцкага райвыканкама на публікацыю "Чаму ж харчаванне нерацыянальнае?" ад 09.01.2001 года паведамляе, што пры падрыхтоўцы пытання "Аб стане і мерах па паляпшэнні арганізацыі харчавання дзяцей і падлеткаў у дзіцячых садках, школах, дапаможнай школе-інтэрнаце" на пасяджэнні выканкама і савета аддзела адукацыі камісіяй аддзела адукацыі і спецыялістаў цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праверааны ўсе школы і дашкольныя ўстановы раёна.

Падчас праверкі спецыялістамі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі браліся абеды для вызначэння каларыйнасці. У выніку аналізу ўстаноўлена, што ў Астравенскай сярэдняй школе фактычная каларыйнасць і хімічны састаў па ўтрыманні тлушчу, бялкоў і вугляводаў ніжэй за велічыні, атрыманыя разліковым шляхам. Працэнт адхілення склаў: па тлушчы — 26,9 працэнта, у трох стравах працэнт адхілення па ўтрыманні сухіх рэчываў -13,5. У Каранеўскай школе — вышэй за нарматыўныя велічыні; працэнт адхілення: па тлушчы +4,2, па бялках і вугляводах +8,1.

Кухары Н.Л.Трыфанава (Астравенская школа) і Р.П.Голубева (Каранеўскай школы) аштрафаваны на 3600 рублёў кожная на аснове пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні галоўным дзяржаўным санітарным урачом раёна.

З боку аддзела адукацыі на кіраўнікоў гэтых школ і кухараў накладзена дысцыплінарнае спагнанне.

Для ўмацавання кантролю за арганізацыяй харчавання і яго якасцю ў кожнай школе створаны камісіі.

Распараджэннем Бешанковіцкага райвыканкама ад 29.11.2000 года створаны міжведамасны савет па рэгуляванні пытанняў харчавання.

**Галіна КЛАКОЎСКАЯ,**
**загадчык аддзела адукацыі Бешанковіцкага райвыканкама.**

Дыялог з чытачом

# “Гісторыя” для ўсіх?

*У “Настаўніцкай газеце” за 23 лістапада 2000 года №123 надрукаваны артыкул Васіля Шайкова, загадчыка кафедры гісторыі і сацыялогіі Полацкага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата гістарычных навук, дацэнта “Гісторыю — толькі для гісторыкаў”. У артыкуле ўзнімаюцца актуальныя пытанні. Аўтар сцвярджае, што мы, беларусы, дрэнна ведаем гісторыю сваёй Радзімы. Пярэчыць гэтаму няма сэнсу, бо і сапраўды так. У выніку — як дбаем, тое і маем. З 1962 года я выкладаю гісторыю і грамадазнаўства (зараз — “Чалавек і грамадства”) у школе і ПТВ і магу зрабіць некаторыя высновы.*

У свой час М.Г.Чарнышэўскі гаварыў, што можна скончыць Пецярбургскі універсітэт у Саратаве. Усё залежыць ад бібліятэкі, ад літаратуры, якой можна карыстацца.

Доўгі час гісторыя Беларусі выкладалася паралельна з гісторыяй СССР і самастойным прадметам не з’яўлялася. Карысталіся выкладчыкі і надзейным падручнікам пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта АПН СССР Л.С.Абэцэдарскага, ён жа і аўтар у садружнасці з М.Т.Баранавай і Н.Г.Паўлавай. Я зусім не вяду агітацыю за вяртанне назад, за выкарыстанне ўстарэлых падручнікаў. Але гэты падручнік меў належны навуковы апарат, быў выдатна аформлены. У пачатку падручніка давалася перыядызацыя гісторыі Беларусі, пасля кожнага параграфа — пытанні і заданні. Падручнік быў ілюстраваны, пасля некаторых параграфаў былі змешчаны дакументальныя матэрыялы. У канцы была змешчана хапалагічная табліца. Апрача таго, настаўнік у сваім распараджэнні меў “Хрэстаматыю па гісторыі Беларусі” (першую і другую часткі), а таксама “Гісторыю Беларусі ў літаратурных вобразах” (складальнік М.Р.Гнеўка). Шмат было і іншых крыніц, якімі маглі карыстацца як настаўнік, так і вучні, каб больш свядома засвоіць праграму.

Праўда, падручнікі і ўся сістэма гістарычнай адукацыі ў нас у рэспубліцы, як і ва ўсёй былой краіне, лічаць сучасныя вучоныя, была занадта ідэалагізавана, палітызавана. Што ж, можна пагадзіцца. Але што сёння мае выкладчык і вучань, каб глыбока і свядома засвоіць праграму? Вельмі мала. Ужо больш дзесяці год мы маем па гісторыі Беларусі не падручнікі, а вучэбныя дапаможнікі, зацверджаныя Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. У апошні час (і гэта, безумоўна, радуе) пачалі з’яўляцца манаграфіі, публікацыі, якія дапамогуць настаўніку весці прадмет на належным узроўні. У “НГ” №2 за 2001 год пералічан спіс вучэбна-метадычных і дыдактычных матэрыялаў для 7 (6) класа. А як справы з вучэбна-метадычнымі матэрыяламі для выпускных класаў? Па сусветнай гісторыі выдадзены не дапаможнік, а падручнік (для 10 кл.)

Выдадзены ў нас у рэспубліцы, мне здаецца — упершыню, карты па гісторыі, што вельмі радуе. Але сучасных сродкаў навучання па гісторыі ўсё ж яшчэ мала. Мала і папулярнай літаратуры па гісторыі Беларусі для вучняў.

Для вучняў 10 — 11 класаў агульнаадукацыйных школ і ПТВ выкарыстоўваецца вучэбны дапаможнік “Чалавек і грамадства” пад рэдакцыяй Л.Н.Багалюбава і А.Ю.Лазебнікавай, рэкамендаваны Міністэрствам агульнай і прафесіянальнай асветы Расійскай Федэрацыі. Шкада, што падобны навучальны дапаможнік створаны не ў нашай краіне, а ў братняй Расійскай Федэрацыі. Успрымальнасць гэтага дапаможніка не вельмі высокая. Так мяркуе большасць навучэнцаў ПТВ, з якімі даводзілася гутарыць на гэту тэму. У свой час, калі выкладалася “Грамадазнаўства”, то па ўсіх раздзелах падручніка былі наборы плакатаў, хрэстаматыі, зборнікі дакументаў, па радыё ішла трансляцыя лекцый прафесара Пухоўскага для выпускнікоў школ, выдаваліся брашуры па асобных тэмах і раздзелах.

У апошнія гады многа гаворыцца аб тэхналогіі навучання. Але калі не будзе сучаснага добрага падручніка, хрэстаматыі, методыкі выкладання прадмета, плакатаў, кінафільмаў, дыяфільмаў і іншых, больш карысных сродкаў навучання, то веды выпускнікоў будуць фрагментарныя, павярхоўныя. Новыя тэхналогіі настаўнікі і вучні асвояць толькі тады, калі будзе належная вучэбна-матэрыяльная база.

Такім чынам, малая колькасць гадзін, адсутнасць кансультацый па некаторых грамадскіх дысцыплінах, недахоп сучасных сродкаў навучання па гісторыі ставяць абітурыентаў у складанае становішча пры адказе на пытанне “Што вы ведаеце пра валочную меру альбо паланецкі універсал?”

**Генадзь БОРСКІ,**
**выкладчык Полацкага ПТВ-66.**

Нядаўна ў ЗША закончыўся чэмпіянат свету па фрыстайлу, на якім беларускія спартсмены Аляксей Грышын, Дзмітрый Дашчынскі і Ала Цупер заваявалі прызавыя месцы.

Пераможцаў і іх трэнераў у Рэспубліканскім цэнтры фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў павіншаваў намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Алег Слука і ўручыў ім каштоўныя падарункі.

НА ЗДЫМКАХ: дырэктар Рэспубліканскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Анатоль Гардусенка, намеснік міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Алег Слука і начальнік Галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Георгій Бутрым у час віншавання спартсменаў; пераможцы чэмпіянату свету і іх трэнеры.

**Казімір ЮРОЙЦЬ.**
**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

Дашкольная адукацыя

# Дзе клопат, там і плён

***Любоў Васільеўна Шастакова — арганізатар па дашкольным выхаванні Капыльскага раённага аддзела адукацыі. Чалавек неардынарны, які поўнасцю аддаецца сваёй справе. “Наш галоўны метадыст” — так называюць дашкольнікі Капыльшчыны Любоў Васільеўну. Прапануем увазе чытачоў інтэрв’ю з Шастаковай.***

Капыльшчына — калыска многіх мастакоў прозы і паэзіі, такіх як Цішка Гартны, Кузьма Чорны, Адам Русак, Анатоль Астрэйка, Мікола Хведаровіч...

Нездарма кажуць, што тут “сама зямля спрыяе талентам”. І абуджаюцца яны ў самых маленькіх жыхароў гэтага маляўнічага краю з ранняга ўзросту.

Кожны дзіцячы сад — гэта цудоўная краіна дзяцінства, дзе ёсць свае традыцыі, свая адмеціна, свае сакрэты выхавання. Нават клопаты і праблемы, а іх у наш час нямала, у кожнага таксама свае, ды і вырашаюцца яны па-свойму. Не змераць ні на якіх вагах той уклад, які ўносяць у развіццё інтэлектуальнага патэнцыялу жыхароў раёна работнікі дашкольнага выхавання. Як добры садоўнік вырошчвае з пяшчотай і любоўю маленькія кволыя парасткі, так і яны з той жа пяшчотай, любоўю і аддансцю вырошчваюць наша "заўтра" — маладых, таленавітых, разумных людзей, якія будуць жыць у трэцім тысячагоддзі, якім далей тварыць і пісаць гісторыю Беларусі.

На Капыльшчыне, гэтак жа як і ў іншых мясцінах, ёсць чым пахваліцца, што паказаць, аб чым расказаць усім, хто завітае ў любую дашкольную ўстанову раёна.

**— Любоў Васільеўна, раскажыце чым жывуць дашкольныя ўстановы Капыльшчыны?**

— У 35 дашкольных установах раёна, якія наведваюць звыш паўтары тысячы дзяцей, створаны добрыя ўмовы для ўсебаковага іх развіцця, творчага росту і станаўлення асобы.

Адна з галоўных задач кожнага дзіцячага сада — умацаванне здароўя дзяцей і фарміраванне здаровага ладу жыцця. Наведаўшы, напрыклад, яслі-сад №6 Капыля, дзе загадчыцай працуе Зінаіда Уладзіміраўна Ткачук, можна пераканацца ў гэтым. Яслі-сад №6 з прыгожай назвай “Крынічка” наведваюць 197 дзяцей. Для іх тут створаны ўсе неабходныя ўмовы, забяспечаны догляд, арганізавана паўнацэннае харчаванне, дастатковае знаходжанне дзяцей на свежым паветры. Працуе басейн з саунай, фізіятэрапеўтычны кабінет, дзе па назначэнні ўрача дзеці атрымліваюць неабходную медыцынскую дапамогу. Інгаляцыі, электралячэнне, электрасон, спелеатэрапія, цеплавыя працэдуры, фітатэрапія, кіслародныя кактэйлі, масаж, вітамінізацыя, медыкаментознае аздараўленне — вось няпоўны пералік аздараўленчых працэдур, якія праводзяцца ў дашкольнай установе.

Тут працуюць тры санаторныя групы для аслабленых дзяцей, дарэчы, не толькі з Капыля, але і для дашкольнікаў раёна.

**— А як у садках “змагаюцца” з захворваннямі дзетак?**

— З мэтай зніжэння захворванняў дзяцей у дашкольных установах раёна вітамінізуецца ежа, дзецям рыхтуюць напоі з лекавых траў, кіслародныя кактэйлі, праводзіцца дыхальная гімнастыка і кропкавы масаж, абавязковае ўвядзенне практыкаванняў па прафілактыцы парушэнняў зроку і плоскаступнёвасці.

У кожным дзіцячым садзе ёсць спартыўныя пляцоўкі, у групах абсталяваны фізкультурныя куткі. З дзецьмі праводзяцца разнастайныя формы работы па фізічным выхаванні. І выніковасць іх добрая. Аб гэтым гавораць лічбы. Так, прапушчана па хваробе адным дзіцём за 1999 г. 6,6 дня (у сярэднім). Колькасць выпадкаў захворванняў на 1000 дзяцей за 1999 г. склала 1190, што значна ніжэй абласнога паказчыка.

**— Ці працуюць дашкольныя работнікі Капыльшчыны па новых тэхналогіях?**

— У работу ўсіх дашкольных устаноў раёна ўкараняюцца нетрадыцыйныя тэхналогіі, элементы наватарскіх методык. Выхавальнікі ясляў-сада №6 Т.Ф.Сташэўская, В.М.Булынка ўжо пяты год працуюць па методыцы М.Мантэсоры, Л.А.Кот, Т.П.Дубовік у сваёй працы выкарыстоўваюць тэхналогію “Першы крок”, Л.У.Вярбіла (яслі-сад №1), Л.Я.Дарогіна (яслі-сад №5) вынікова працуюць па тэхналогіі ТРВЗ.

**— Любоў Васільеўна, а ці вядзецца ў дашкольных установах Капыльшчыны работа з адоранымі дзецьмі?**

— Вялікая ўвага ў кожным дзіцячым садзе надаецца праблеме развіцця творчых здольнасцей і задаткаў дзяцей.

Асабліва паспяхова ў плане развіцця тэатральна-мастацкіх здольнасцей працуе калектыў Бучацінскага дзіцячага сада. Кіруе ім Таццяна Уладзіміраўна Стасевіч. Тут у кожнай групе створаны міні-сцэны, зроблены рукамі педагогаў розныя атрыбуты для фланелеграфа, лялечнага тэатра, гульняў-драматызацый, гульняў свабоднага самаразвіцця (мовы, лагічнага мыслення), лічэння, пальчыкавыя тэатры, тэатры рукавічак і многае іншае.

Увогуле калектыў гэтага дзіцячага сада вельмі творчы. Працуюць тут паглыблена і ў экалагічным напрамку. Распрацавана ўжо некалькі экалагічных праектаў, такіх як карагод пахаў, сцяжынка пачуццяў, кветкавая дарожка, куток лесу, экалагічная сцяжынка... На агародзе вырошчваюць разнастайныя лекавыя расліны, якія потым выкарыстоўваюцца ў мэтах фітатэрапіі.

Вялікую ўвагу педагагічны калектыў Бучацінскага дзіцячага сада ўдзяляе фізічнаму выхаванню дзяцей. З гэтай мэтай створана неабходная матэрыяльна-тэхнічная база, з дапамогай бацькоў выраблена нетрадыцыйнае спартыўнае абсталяванне, якое садзейнічае развіццю рухальнай актыўнасці. У сумеснай дзейнасці з калектывам бацькоў усе пастаўленыя перад калектывам задачы паспяхова вырашаюцца.

На жаль, час эканамічных цяжкасцей уздзейнічае на кожнага, асабліва адказнага чалавека. Ён закранае і работнікаў дашкольных устаноў Капыльшчыны. Але ўсё ж кожны з іх стараецца сумленна працаваць, годна пераадольваць цяжкасці, тварыць і заставацца “на вышыні”.

**— Поспехаў Вам, Любоў Васільеўна, і ўсім дашкольным работнікам Капыльшчыны.**

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**старшы выкладчык Мінскага абласнога ІПК.**
**Таццяна ГРУДЗІНСКАЯ,**
**кандыдат педагагічных навук, дацэнт БДПУ імя М.Танка.**

Здароўе дзяцей — здароўе нацыі

# Фізічнае выхаванне патрабуе выдаткаў

***Фарміраванне чалавека на ўсіх этапах яго эвалюцыі адбывалася ў непарыўнай сувязі з актыўнай мышачнай дзейнасцю. Рух — гэта галоўная ўмова жыцця, без яго існаванне чалавека немагчыма. Арганізм чалавека самой прыродай створаны для інтэнсіўных фізічных нагрузак, патрэбнасць у руху ўзнікае адначасова з нараджэннем.***

***Назапашана вялікая колькасць фактаў аб карысці рухальнай актыўнасці. Асноўная роля рухальнай актыўнасці — аздараўленчая, яна мае вялікае значэнне для ўсіх узроставых груп насельніцтва.***

Некалькі гадоў таму лічылася, што даросламу чалавеку неабходна затрачваць 3500 ккал у тыдзень, каб быць здаровым. Сёння ўрачы зрабілі выснову, што аптымальным узроўнем рухальнай актыўнасці з’яўляецца інтэрвал ад 3150 да 5246 ккал у тыдзень. На жаль, яшчэ не распрацаваны аптымальныя ўзроўні фізічнай нагрузкі для дзяцей у розныя ўзроставыя перыяды. Тым не менш вызначана, што дзецям ад 1 да 7 гадоў неабходна ад 3,5 да 4 гадзін свабоднай рухальнай актыўнасці ў дзень, дзецям ад 7 да 12 гадоў — ад 3 да 4 гадзін.

На думку дзіцячых псіхолагаў, найбольш падатлівы ў псіхалагічных адносінах узрост для пачатку заняткаў фізічнай культурай — да 10 гадоў. Менавіта ў гэты час закладваецца станоўчае стаўленне да рухальнай актыўнасці, лёгка фарміруецца патрэбнасць у фізкультурных занятках.

У апошняе дзесяцігоддзе здароўе ўсіх узроставых слаёў насельніцтва Беларусі, як і ў краінах постсавецкай сістэмы, фарміравалася пад уздзеяннем неспрыяльных экалагічных і сацыяльных фактараў. У Беларусі сітуацыя пагоршылася з-за ўплыву наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Асабліва трывожным з’яўляецца пагаршэнне здароўя дзяцей. Захворванне іх да 14 гадоў з упершыню ў жыцці ўстаноўленым дыягназам у 1999 годзе павялічылася на 36,1 працэнта ў параўнанні з 1993 годам. Захворванне органаў дыхання ў агульнай структуры займае першае месца (70,8 працэнта). Дзеці, якія падпалі пад працяглы ўплыў “малых доз” радыяцыі, хутка стамляюцца, у іх паніжана мышачная працаздольнасць. У гэтых умовах роля фізічнага выхавання асабліва важная для захавання і ўмацавання здароўя дзяцей, якое вызначае здароўе нацыі ўвогуле.

Згодна з законамі Рэспублікі Беларусь “Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь”, “Аб фізічнай культуры і спорце”, фізічнае выхаванне маладога пакалення з’яўляецца абавязковай састаўной часткай сістэмы адукацыі. Аднак у апошнія гады ў абавязковым фізічным выхаванні дзяцей і моладзі з’явіліся сур’ёзныя праблемы, вынік якіх — зніжэнне яго эфектыўнасці як фактара аздараўлення, фізічнай падрыхтаванасці, фарміравання здаровага ладу жыцця з дапамогай фізічнай культуры. Як пацвярджэнне гэтага — больш за 34,6 працэнта прызыўнікоў не могуць выканаць патрабаванні і нарматывы інструкцый па фізічнай падрыхтоўцы. Каля 25 працэнтаў юнакоў не могуць, так бы мовіць, стаць у строй па стану здароўя.

Адной з праблем з’яўляецца пагаршэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы спартыўных збудаванняў у навучальна-выхаваўчых установах. У сярэднім толькі каля 20 працэнтаў агульнаадукацыйных устаноў у мінулым навучальным годзе былі забяспечаны спартыўным інвентаром паводле тыпавога пераліку.

З пачатку 90-х гадоў скарочана капітальнае будаўніцтва вучэбных спартыўных баз. Станоўчая дынаміка адзначана толькі па абсталяванні спартыўных пляцовак у дзіцячых дашкольных установах, забяспечанасць якімі павялічылася ў 1999 годзе да 83,3 працэнта ў параўнанні з 37,6 працэнта ў 1995 годзе.

За пяць апошніх гадоў колькасць басейнаў у дзіцячых дашкольных установах павялічылася ўсяго на 6. Басейны ёсць у 12,7 працэнта дзіцячых дашкольных устаноў, з іх больш паловы (у Мінскай вобласці — 68,3 працэнта) не функцыянуе з-за адсутнасці гарачай вады ці нездавальняючага санітарна-тэхнічнага стану. Басейны маюць усяго 42 школы рэспублікі. У прафесійна-тэхнічных навучальных установах наогул няма басейнаў, а на 150 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў прыпадае ўсяго адзін басейн.

У 38,6 працэнта дзіцячых дашкольных устаноў няма ні спартыўных, ні музычных залаў. У асноўным гэта ў сельскай мясцовасці — 33 працэнты. Аналагічна адсутнічаюць спартыўныя залы ў 15 працэнтах школ Гродзенскай, 21 працэнта — Мінскай, 19,5 працэнта — Гомельскай, 30 працэнтаў — Брэсцкай, 35,2 працэнта — Віцебскай абласцей. І гэта не толькі ў малакамплектных пачатковых школах сельскай мясцовасці, але і ў базавых школах.

У многіх школьных спартыўных залах няма раздзявалак (у 9-ці школах Смаргонскага раёна, 15-ці — Навагрудскага, 10-ці — Ваўкавыскага, у шэрагу школ Лагойскага, Бярэзінскага, Смалявіцкага, Маладзечанскага раёнаў Мінскай вобласці), санітарна-бытавых памяшканняў. У большасці школ, асабліва ў сельскай мясцовасці, з-за адсутнасці гарачай вады душавыя не функцыянуюць.

Многія спартыўныя збудаванні навучальна-выхаваўчых устаноў не адпавядаюць санітарным правілам па санітарна-тэхнічным стане, мікраклімаце. У 5 — 10 працэнтах спартзалаў узровень штучнага асвятлення ніжэй за нарматыўны (20 працэнтаў школ Кобрынскага раёна, шэраг школ Віцебска, Наваполацка, Мінска, Дзяржынскага, Вілейскага, Старадарожскага, Клецкага раёнаў Мінскай вобласці, Бярозаўскага раёна Брэсцкай, Гарадоцкага — Віцебскай вобласці).

Характэрна і тое, што спартыўныя збудаванні навучальна-выхаваўчых устаноў маюць патрэбу ў капітальным рамонце (4 школы і 9 спартыўных пляцовак у Мінску, 4 школы і ВПТВ-213 Брэста, сярэдняя школа № 4 Баранавічаў, Целяханская сярэдняя школа Івацэвіцкага раёна, чатыры школы Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці, сярэдняя школа вёскі Ліпнішкі Іўеўскага раёна, электратэхнічны каледж Гродна і інш.).

За невыкананне санітарных правілаў і норм, няякасную падрыхтоўку да навучальнага года санэпідслужба прыпыніла эксплуатацыю 41 спартыўнага збудавання, былі аштрафаваны 94 службовыя асобы (у тым ліку па Мінску каля 60).

У апошнія гады адзначаецца адток кадраў выкладчыкаў фізічнага выхавання з агульнаадукацыйных школ, што адмоўна адбіваецца на якасці падрыхтоўкі вучняў. З-за адсутнасці выкладчыкаў і недастатковай іх кваліфікацыі ў шэрагу школ не функцыянуюць спецыяльныя групы па фізічным выхаванні (у Стаўбцоўскім, Слуцкім, Уздзенскім, Капыльскім, Старадарожскім, Барысаўскім раёнах, сельскіх школах Дзяржынскага, Лагойскага, Клецкага раёнаў, у большасці раёнаў Магілёўскай вобласці).

Для эфектыўнага фізічнага выхавання неабходна сучасная сістэма ўрачэбнага кантролю за здароўем дзяцей і навучальным працэсам па фізічным выхаванні. Аднак на сёння ён часта зводзіцца толькі да прысутнасці медыка на спаборніцтвах. У многіх навучальна-выхаваўчых установах медыцынскі кантроль не ажыццяўляецца з-за неўкамплектаванасці кадраў. Практычна адсутнічаюць медыцынскія работнікі ў сельскіх школах. Нават у Мінску ўкамплектаванасць медыцынскімі работнікамі школ складае 85 працэнтаў, у дзіцячых дашкольных установах — 80 працэнтаў.

Актывізавана работа спартыўных гурткоў і секцый у дзіцячых дашкольных і ў агульнаадукацыйных установах.

Распрацаваны шэраг нарматыўных дакументаў і рэкамендацый па гэтым пытанні. Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, напрыклад, распрацавана “Канцэпцыя фізічнага выхавання ва ўмовах рэформы сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь”, галоўнай мэтай якой з’яўляецца пераарыентацыя фізічнага выхавання дзяцей дашкольнага ўзросту, вучняў і студэнтаў з нарматыўна-трэніровачнай накіраванасці на агульную фізкультурную адукацыю, аздараўленне, гарманічнае фізічнае і духоўнае развіццё асобы, фарміраванне здаровага ладу жыцця з дапамогай фізічнай культуры. Міністэрства аховы здароўя спадзяецца, што ўсе зацікаўленыя, і ў першую чаргу адміністрацыі навучальна-выхаваўчых устаноў, прымуць неабходныя меры па стварэнні належных умоў для заняткаў фізкультурай і спортам і павышэнні эфектыўнасці фізічнага выхавання.

**Валерый ФІЛОНАЎ,**
**намеснік міністра аховы здароўя, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Рэспублікі Беларусь.**

# Каб лебедзь, рак і шчупак былі заадно

***Прыкладна да такой высновы (перафразіруючы І.Крылова) я прыйшоў, папрысутнічаўшы на нядаўнім пасяджэнні прэзідыума Рэспубліканскага савета Беларускага педагагічнага таварыства. На ім разглядалася адно з надзённейшых пытанняў — медыка-псіхолага-педагагічныя аспекты зберажэння і ўмацавання здароўя дзяцей у вучэбна-выхаваўчых установах.***

***Як скіраваць намаганні органаў аховы здароўя, адукацыі, культуры ў адно рэчышча — на ўмацаванне здароўя дзяцей? Гэтым быў прасякнуты кожны выступ.***

Ала Крукава па роду свайго прафесійнага занятку (галоўны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя па гігіене дзяцей і падлеткаў, загадчык лабараторыі Беларускага навукова-даследчага інстытута, кандыдат медыцынскіх навук) засяродзіла ўвагу прысутных на даволі трывожных фактах. Статыстыка сцвярджае, што сёння толькі каля чатырох працэнтаў дзяцей можна аднесці да першай групы здароўя (гэта значыць тых, хто не мае хранічных захворванняў і функцыянальных расстройстваў). Не трэба, падкрэсліла Ала Аляксандраўна, скідваць з рахунку і чарнобыльскія наступствы. Менавіта на іх яна спаслалася, паведамляючы, што ў Салігорскім раёне нараджаецца толькі два працэнты дзяцей без якіх-небудзь адхіленняў у стане здароўя.

На думку Алы Аляксандраўны, разгорнутая рэформа школы, інтэнсіўны вучэбна-выхаваўчы працэс не заўсёды садзейнічаюць стану здароўя вучня. Так, адаптацыя пачаткоўцаў (пераход ад садка ў школу) працягваецца амаль год.

Вельмі ўплываюць на стан здароўя вучняў умовы навучання. У прыватнасці, паветрана-цеплавы рэжым. Калі ігнараваць яго — значыць трымаць вучняў ва ўмовах падводнай лодкі.

Ала Аляксандраўна закранула і пытанне харчавання. На сёння гэта пытанне з пытанняў. Менавіта яно з’яўляецца асновай здароўя дзяцей. Калі харчаванне для дзяцей (асабліва з юных гадоў) непаўнацэннае, то пасля як ты ні харчуйся, выправіць страчанае ў маленстве амаль немагчыма.

Ала Аляксандраўна не магла абысці ў сваім выступленні і пытанне здаровага ладу жыцця, які закладваецца яшчэ ў пачатковай школе....

Дарэчы, на гэта звяртаецца ўвага ў спецыяльнай праграме прэзідэнта. Дакладчыцы паступіла шмат пытанняў, у прыватнасці такое: хто займаецца здароўем настаўніка? Ёсць сцвярджэнне, што працу настаўніка можна параўнаць з цяжкай фізічнай працай.

Як заўсёды пераканаўчым, аргументаваным, з належным навуковым аналізам было выступленне загадчыка кафедры агульнай і дзіцячай псіхалогіі Белпедуніверсітэта імя М.Танка, доктара псіхалагічных навук Якава Каламінскага.

Якаў Львовіч акцэнтаваў увагу прысутных на неабходнасці павышэння псіхалагічнай культуры вучняў, якая непарыўна звязана з культурай здароўя. Псіхалагічны аспект заўсёды істотны. Пакутуе псіхіка — пакутуе і здароўе. Адсюль — крок да высновы, што настаўнік, які валодае належнай псіхалагічнай культурай, у стане перадаць яе і вучням.

Хаця размова на пасяджэнні вялася вакол здароўя дзяцей і падлеткаў, вучоны выказаўся і аб здароўі настаўніка.

Якаў Львовіч спаслаўся на прыклад Германіі, дзе здароўе педагогаў выдзелена медыкамі ў асобную групу.

Пастаянныя стрэсы, на думку вучонага, шкодна ўплываюць на здароўе педагога, выклікаюць псіхасаматычныя захворванні.

Якое ж выйсце? Яно, мяркуе Якаў Львовіч, у шырокім падключэнні да справы (павышэння псіхалагічнай культуры) найперш самага шырокага кола настаўнікаў. І добра, калі асновы псіхалагічнай культуры будуць прывівацца дзецям з першага класа.

Адказнай і неадкладнай справе вельмі спрыяе ўвядзенне ў штаты навучальных устаноў пасады педагога-псіхолага. Так з‘явілася магчымасць увасобіць на практыцы напрацоўкі псіхолагаў-навукоўцаў, кафедраў агульнай і дзіцячай псіхалогіі педагагічных ВНУ.

— Няма патрэбы, — падкрэсліў вучоны, — адшукваць дадатковыя сродкі. Галоўнае — паставіць на цвёрды грунт працу школьнага педагога-псіхолага, працу ў гэтым плане класных кіраўнікоў, прадметнікаў.

Якаў Львовіч зазначыў, што навукоўцы-псіхолагі і, у прыватнасці, кафедра, якую ён узначальвае, у стане распрацаваць неабходныя матэрыялы.

А што робіцца дзеля зберажэння і ўмацавання здароўя дзяцей у вучэбна-выхаваўчых установах сёння? Шматлікія адказы на гэтыя пытанні можна было знайсці ў выступленні галоўнага ўрача Мінскага абласнога дыспансера спартыўнай медыцыны Кацярыны Пілюцік.

Факты, прыведзеныя ёю, красамоўна сведчылі аб неабходнасці цеснага ўзаемадзеяння настаўнікаў і медыкаў.

У актыве супрацоўнікаў дыспансэра, напрыклад, глыбокія і неаднаразовыя даследаванні стану здароўя школьнікаў Капыля. У даследаванні было задзейнічана шырокае кола спецыялістаў.

І якія ж вынікі даследаванняў?

Выявілася, што сярод вучняў пачатковых класаў толькі чатыры — шэсць працэнтаў здаровых дзяцей. Аналагічная акцыя спецыялістаў абласнога дыспансэра спартыўнай медыцыны была ажыццёўлена ў школах Салігорска і Вілейкі.

Вывады медыкаў былі прафесійна-бясстраснымі — да заняткаў спортам можна прыцягнуць толькі 15 — 16 працэнтаў дзяцей.

Пэўная напрацоўкі абласны дыспансэр спартыўнай медыцыны набыў пасля абследавання дашкольных устаноў вобласці. І зноў з вуснаў Кацярыны Уладзіміраўна прагучала сумная і прыкрая канстатацыя — выяўлены рост дэфіцыту масы цела наведвальнікаў садкоў.

У сувязі з гэтым не магу ўстрымацца, каб не перадаць сэнс рэплікі супрацоўніцы адной з турыстычных арганізацый: мы першы тыдзень знаходжання вучняў у турыстычным летніку адкормліваем дзяцей перад тым, як адправіць іх у вандроўку.

Узнікла і такое пытанне: хто палічыў, колькі здароўя аддае студэнт, каб займець дыплом бакалаўра?..

Пытанні, вынесеныя на абмеркаванне прэзідыума Рэспубліканскага савета педагагічнага таварыства, выклікалі ажыўленыя спрэчкі.

**Уладзімір НОВІК.**

# Надзея Васільеўна ганарыцца сваімі вучнямі

***Ёсць людзі вельмі шчырыя, добрасумленныя, самаадданыя ў працы, але занадта сціплыя і таму амаль непрыкметныя. Не заўсёды іх можна заўважыць, ацаніць веліч іх душы.***

Я хачу расказаць пра маю першую настаўніцу Надзею Васільеўну Юдзіцкую. Нарадзілася яна ў 1931 г. у в.Савічы. Тут вырасла, скончыла сямігодку. З удзячнасцю ўспаміназа сваіх бацькоў, якія былі простымі людзьмі, працавалі ў мясцовым калгасе. Першыя ўрокі жыцця Надзея Васільеўна атрымала менавіта ад іх. Бацькі выхоўвалі яе сумленнай, праўдзівай, справядлівай: “Кожны чалавек мае сваю чалавечую годнасць. Ніколі не зневажай яго”.

Жахі вайны, галеча і голад засталіся ў памяці на ўсё жыццё, навучылі цаніць галоўнае. Яна добра запомніла гэту жыццёвую мудрасць, старалася заўсёды быць вернай ёй: і тады, калі вучылася ў Мазырскім педагагічным вучылішчы, і тады, калі толькі пачынала сваю працоўную дзейнасць у Столінскім раёне ў в.Замашчаны. Праз два гады вярнулася ў родныя мясціны, дзе восем гадоў працавала ў вёсцы Трамец. Хадзіла пешшу 10 кіламетраў у любое надвор’е, зімой і летам, бо жыла ў вёсцы Савічы ў бацькоў. У 1955 годзе выйшла замуж за мясцовага хлопца Віктара Іванавіча Юдзіцкага. З ім пражылі яны доўгае і цудоўнае жыццё, нарадзілі сына Віктара, які, на жаль, загінуў у 25-гадовым узросце. Няма ўжо і Віктара Іванавіча.

Больш як 35 гадоў Надзея Васільеўна працуе ў нашай школе настаўніцай малодшых класаў. Многім вучням дала яна пуцёўку ў жыццё. І былыя выхаванцы добра памятаюць сваю першую настаўніцу, не забываюць яе.

Надзея Васільеўна даўно ўжо на пенсіі, але працягвае працаваць з-за недахопу маладых спецыялістаў для малодшых класаў. Шмат гадоў таму яе абралі грамадскім інспектарам па апецы дзяцей. Доўгі час вяла яна гэтую міласэрную работу, дапамагала абяздоленым дзецям, лячыла хворыя душы. Сёння Надзея Васільеўна з’яўляецца апекуном дзяўчынкі Аксаны, у якой памерла маці... Настаўніца аддае ёй усю душу і цяпло, таму і Аксана вельмі любіць сваю бабулю (так ласкава яна называе яе). Сёння Аксана ўжо студэнтка пятага курса Мазырскага дзяржаўнага інстытута.

Многа ў Надзеі Васільеўны былых вучняў, якімі яна ганарыцца. Дарэчы, маіх дваіх дзяўчынак, Людмілу і Танюшу, вучыла таксама яна. Па слядах Надзеі Васільеўны пайшлі і сталі настаўнікамі многія былыя вучні. Вось такая яна — настаўніца ад Бога.

За поспехі ў навучанні і выхаванні школьнікаў Надзея Васільеўна ўзнагароджана медалём “За добрасумленную працу”, значком “Выдатнік народнай асветы БССР”, Граматай Вярхоўнага Савета БССР, граматамі абласнога і раённага аддзелаў адукацыі. Пра гэту цудоўную жанчыну, маю першую настаўніцу, можна пісаць многа, але я закончу вершам:

Пусть в сердце молодость
не гаснет,
А вместе с ней любовь
и доброта,
Пусть в Вашем доме
будет счастье,
Уют, покой и теплота.

**Віктар ГАРМАШ.**



# Мастоўскі "Дойлід"

*"Дойлід" — назва гісторыка-краязнаўчага гуртка Мастоўскага раённага Цэнтра пазашкольнай працы.*

Веданне дойлідства роднага краю, як і ягонай мовы, літаратуры, неабходна кожнаму, лічыць кіраўнік гуртка Аляксандр Рыгоравіч Старавойтаў, пераможца VI абласнога фестывалю-конкурсу.

На занятках гуртка дзеці знаёмяцца з шэдэўрамі беларускай архітэктуры, што абуджае ў іх цікавасць да мінулага, сваёй гістарычнай спадчыны.

Валодаючы вялікай эрудыцыяй і педагагічным майстэрствам, Аляксандр Рыгоравіч развівае творчыя здольнасці дзяцей. Прагрома разлічана на вучняў ад 13 да 17 гадоў. Амаль усе тэмы маюць практычны характар, толькі невялікая частка праводзіцца ў выглядзе лекцый, віктарын, конкурсаў. У працэсе навучання дзеці набываюць практычныя навыкі працы з інструментамі, вучацца рабіць эскізы.

Выраб вучнямі макетаў і іх выкарыстанне на занятках гуртка і ўроках гісторыі з'яўляюцца на думку настаўніка, эфектыўнай формай вывучэння і прапаганды архітэктурнай спадчыны Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр Рыгоравіч Старавойтаў падчас працы ў гуртку.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

## Гэта трэба ведаць кожнаму

# Аб падаходным падатку з грамадзян

***Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб падаходным падатку з грамадзян" ад 9 сакавіка 1999 года № 247-З, уведзеным у дзеянне з 1 студзеня 1999 года, устаноўлена вылічванне падаходнага падатку з даходаў фізічных асоб зыходзячы з сукупнага гадавога даходу.***

Па заканчэнні года, не пазней 1 сакавіка 2001 года, фізічныя асобы абавязаны падаць у падатковы орган па месцы рэгістрацыі (месцы прапіскі) у якасці падаткаплацельшчыка Рэспублікі Беларусь дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе за 2000 год. Сукупны гадавы даход вызначаецца як сума ўсіх даходаў фізічнай асобы, атрыманых ад розных крыніц за апошні каляндарны год.

Дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе падаюць фізічныя асобы: якія атрымалі даходы, акрамя даходаў па месцы асноўнай работы; якія маюць даходы ад дзвюх ці больш крыніц; якія атрымалі даходы, падаткаабкладанне якіх робіцца падатковымі органамі (даходы з-за мяжы і іншыя).

Даведкі аб сумах налічанага даходу, памерах прадастаўленых ільгот і сумах утрыманага падатку па патрабаванні фізічных асоб выдаюцца бухгалтэрыяй па месцы асноўнай работы ў пяцідзённы тэрмін пры іх звяртанні, не па месцы асноўнай работы — адначасова з выплатай даходаў.

Дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе не падаюць фізічныя асобы: якія атрымалі ў мінулым годзе даходы толькі па месцы асноўнай работы (службы, вучобы), нават калі і змянялі на працягу каляндарнага года месца асноўнай работы (службы, вучобы); якія атрымалі толькі даходы па грамадзянска-прававых дагаворах ад адной крыніцы выплаты; якія атрымалі толькі даходы, што не падпадаюць пад падаткаабкладанне згодна з п.1 арт.3 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб падаходным падатку з грамадзян" (дзяржаўныя пенсіі, стыпендыі, дапамогі і гэтак далей).

Не падаюць дэкларацыю і фізічныя асобы, у якіх атрыманы абкладальны сукупны гадавы даход па месцы асноўнай работы і з іншых крыніц у мінулым годзе не перавысіў 652.080 рублёў; якія атрымалі толькі даходы, па якіх законам прадугледжаны іншы парадак падаткаабкладання і стаўкі падатку (даходы ў выглядзе дывідэндаў па акцыях, даходы, што атрымліваюцца пры размеркаванні прыбытку (даходу) юрыдычнай асобы і іншых).

Фізічныя асобы, якія атрымалі ў справаздачным каляндарным годзе даходы, падатак па якіх вылічваецца непасрэдна падатковымі органамі, а таксама індывідуальныя прадпрымальнікі, у тым ліку і асобы, якія займаюцца прыватнай натарыяльнай дзейнасцю, падаюць дэкларацыю незалежна ад памеру атрыманага даходу.

Варта нагадаць, што фізічныя асобы, якія не пададуць ці несвоечасова пададуць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе, прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці згодна з заканадаўствам. Адміністрацыйны штраф за вышэйзазначанае парушэнне прадугледжаны ў памеры ад дзесяці да пяцідзесяці мінімальных заработных плат.

Падрабязную інфармацыю можна атрымаць у інспекцыі Дзяржаўнага падатковага камітэта па месцы жыхарства.

## Дыскусія: як ацэньваць веды вучняў?

# Пяцёрка пяцёрцы не роўня

***Мы ўжо аднойчы выказвалі сваё меркаванне на старонках "Настаўніцкай газеты" па пытанні адзнакі. Размова вялася пра гуманізацыю ацэнкі паспяховасці па фізічнай культуры. Сутнасць нашых прапаноў была ў тым, што адзнака павінна выстаўляцца на падставе ацэнкі выканання навучэнцамі ўсіх раздзелаў праграмы, а не толькі адлюстроўваць ступень фізічнай падрыхтаванасці.***

У цэнтры ўвагі таго нашага артыкула быў вучань, для якога фізічная культура з'яўляецца не самым лёгкім вучэбным прадметам. Вучні, якія выдатна паспяваюць па фізічнай культуры, як заўсёды ў такіх выпадках, засталіся па-за межамі нашай увагі. Але ці заўсёды правільна выстаўляецца наша традыцыйная адзнака па фізічнай культуры моцнаму вучню? І не толькі па фізічнай культуры. Так, напрыклад, вучань, які ледзь выканаў нарматыў, што ацэньваецца на "выдатна", і вучань, які паказаў выключна выдатны вынік, атрымліваюць аднолькавую адзнаку. Першаму вучню яна прыносіць радасць і жаданне яшчэ больш удасканальвацца. Для другога атрыманая адзнака, па меншай меры, не з'яўляецца стымулам для далейшага ўдасканалення.

Ці іншы прыклад. Вучань вельмі стараўся атрымаць выдатную адзнаку. Знаходзячыся на мяжы здавальняючай адзнакі, ён быў ацэнены ў першай чвэрці за вынік у скачку ў даўжыню з месца на "чатыры". Напрыканцы навучальнага года вучань амаль дасягнуў узроўню, які ацэньваецца на "выдатна". Каб атрымаць гэтую адзнаку, яму не хапіла ўсяго аднаго сантыметра. Чатырохбальная шкала аказалася недастаткова адчувальнай, каб ацаніць яго прагрэс у чацвёртай чвэрці. У вучня, арыентаванага на адзнаку, міжволі паяўляецца сумненне ў неабходнасці і далей старацца палепшыць свой вынік.

У сувязі з увядзеннем дзесяцібальнай шкалы магчымасці гуманізацыі ацэнкі паспяховасці значна пашырыліся. Такая шкала дазваляе справядліва ацаніць як адстаючых, так і тых, хто паспявае на выдатна. Нягледзячы на гэта, пераход на дзесяцібальную шкалу ацэнкі паспяховасці выклікае ў практыкаў шмат пытанняў. Адно з галоўных сярод іх — наколькі магчыма ўвесці гэта ў практыку заняткаў па фізічнай культуры?

Магчыма! І прасцей за ўсё гэта робіцца пры ацэнцы фізічнай падрыхтаванасці. У гэтым можна кожнаму пераканацца на канкрэтным матэрыяле гэтага артыкула. Як вядома, сёння прынята чатырохбальная шкала (2,3,4,5). Абапіраючыся на яе, прапануюцца чатыры ўзроўні ацэнкі фізічнай падрыхтаванасці: "вельмі нізкі", "нізкі", "сярэдні", "высокі" (табліца 1). "Вельмі нізкі" ўзровень, як непрымальны, ацэньваецца нулявой адзнакай. Астатнія ўзроўні на гэтай жа табліцы суаднесены з неафіцыйнай шкалой адзнак, якая прымяняецца ў школах (3-; 3; 3+; 4-; 4; 4+; 5-; 5; 5+), і іх якаснай моўнай характарыстыкай, з дзесяцібальнай сістэмай ацэнкі і з працэнтам вучняў, якім яны даступны на цяперашні час.

*Табліца №1.*

**10-балькая шкала ацэнкі фізічнай падрыхтаванасці**

| Узровень падрыхтаванасці | Удасканаленая адзнака ў балах і яе якасная моўная характарыстыка | Адзнака ў 10-бальнай сістэме | Працэнт вучняў, здольных дасягнуць гэтага ўзроўню |
|---|---|---|---|
| Вельмі нізкі | 2 (нездавальняюча) | — | 100 |
| Нізкі | 3- (амаль здавальняюча) | 1 | 90 |
| | 3 (здавальняюча) | 3 | 80 |
| | 3+ (вельмі здавальняюча) | 4 | 70 |
| Сярэдні | 4- (амаль добра) | 5 | 60 |
| | 4 (добра) | 6 | 50 |
| | 4+ (вельмі добра) | 7 | 40 |
| Высокі | 5- (амаль выдатна) | 8 | 30 |
| | 5 (выдатна) | 9 | 20 |
| | 5+ (цудоўна) | 10 | 10 |

Гэтая дзесяцібальная шкала больш адчувальная, чым чатырохбальная. Яна дазваляе больш дыферэнцыявана ацэньваць дасягненні вучняў у тэстах. За кожным балам стаіць якасная і колькасная характарыстыка адзнакі аднаго і таго ж узроўню. Каб заахвоціць першыя, самыя цяжкія крокі вучня, які не дасягае мінімальнага выніку, яго проста не ацэньваюць. Яму трэба крыху папрацаваць над сабой. Пасля першай маленькай удачы, ацэненай толькі адным балам, такі ж па цяжкасці крок на шляху самаўдасканалення ацэньваецца ўжо ў тры балы, каб заахвоціць настойлівасць. Гэта — узнагарода за настойлівасць. Вельмі моцным і моцным фізічна вучням таксама ёсць магчымасць атрымаць больш якасную адзнаку — 5+ (цудоўна). У гэтым прыкладзе дзве розныя адзнакі ў чатырохбальнай сістэме будуць мець розную вагу. І пяцёрку можна будзе адрозніць ад пяцёркі, калі побач з ёй у дужках даць расшыфроўку — (цудоўна).

Вызначыць узровень адзнакі можна, калі звярнуцца да звыклай нам табліцы ацэнкі фізічнай падрыхтаванасці. Яна вельмі простая для карыстання і зразумелая кожнаму настаўніку. Такія табліцы складаюцца для кожнага ўзросту, але яны дзесяцібальныя.

Для ацэнкі рухальных уменняў і навыкаў таксама мэтазгодна выкарыстоўваць дзесяцібальную шкалу. Ацэньваюцца тэхніка выканання практыкавання і паказаны вынік. Пры гэтым вынік мае значэнне толькі для атрымання вельмі высокіх адзнак у практыкаваннях, дзе ён можа быць вымераны. Гэта такія практыкаванні, як бег, скачкі, кіданне, лазанне на час, уздыманне вагі і г.д. У тых практыкаваннях, дзе вынікам з'яўляецца толькі тэхніка іх выканання, ацэньваецца толькі тэхніка. Гэта ў асноўным гімнастычныя практыкаванні, танцавальныя кампазіцыі, выкананне якіх патрабуе значнага артыстызму, выразнасці руху і г.д.

Прынцыпова падыход да ацэнкі аднолькавы для ўсіх раздзелаў праграмы. Таму, як і ў папярэднім выпадку, прапануюцца чатыры ўзроўні ацэнкі ступені засваення рухальных уменняў і навыкаў: "вельмі нізкі", "нізкі", "сярэдні", "высокі". "Вельмі нізкі" узровень не дае вучню ніводнага бала. Ён павінен папрацаваць і навучыцца выконваць практыкаванне, таму што гэтая задача даступна для кожнага вучня. Проста ў праграме так падабраны практыкаванні, каб кожны вучань мог папрацаваць і засвоіць рухальны навык. І па другіх жа вучэбных дысцыплінах трэба папрацаваць, каб выканаць праграмныя патрабаванні не толькі па фізкультуры.

Астатнія ўзроўні, як і ў папярэднім выпадку пры ацэнцы фізічнай падрыхтаванасці, суаднесены з неафіцыйнай шкалой адзнак 3-; 3; 3+; 4-; 4; 4+; 5-; 5; 5+ і іх якаснай моўнай характарыстыкай. Але кожная адзнака ў дзесяцібальнай сістэме адзнак цесна звязана са сваімі крытэрыямі тэхнікі выканання практыкавання і паказчыкамі яе эфектыўнасці.

Як і ў выпадку ацэнкі фізічнай падрыхтаванасці, дзесяцібальная шкала больш адчувальная. Прынцыповае яе адрозненне ў тым, што яна дае нават слабаму фізічна вучню атрымаць адзнаку "добра". Калі, напрыклад, вучань не ў стане выканаць нарматыў у скачку ў даўжыню з разбегу на адзнаку "4", ён можа асвоіць тэхніку выканання рухальнага дзеяння і атрымаць "4" толькі за дэманстрацыю тэхнікі. У гэтым выпадку, маючы высокую адзнаку за веды, можна прэтэндаваць на дастаткова высокі агульны бал па фізічнай культуры, нават без выдатных фізічных даных. А калі пастарацца і паказаць нават сярэдні вынік, які характарызуе развіццё фізічнай якасці, то за дакладную тэхніку можна атрымаць адзнаку "5 -", адпаведную сучаснай пяцёрцы.

Вельмі моцным і моцным фізічна вучням ёсць магчымасць вылучыцца і атрымаць адзнаку, эквівалентную пяцёрцы, але якая будзе адрозніваць іх ад вучня, што атрымаў пяцёрку з сярэднім узроўнем дасягнення. Гэта можа быць пяцёрка, ацэненая ў 9 ці 10 балаў. У першым выпадку гэта ардынарная выдатная адзнака, у другім — яна ацэньваецца крытэрыем "цудоўна". Але для атрымання такой адзнакі неабходна, акрамя дэманстрацыі правільнай тэхнікі рухальнага дзеяння, паказаць яшчэ вынік, адпаведны высокаму ўзроўню.

Веды, якія набываліся вучнямі ў кожнай чвэрці на занятках па фізічнай культуры, ацэньваюць наступным чынам. Ацэнка ажыццяўляецца па шкале, распрацаванай згодна з ідэяй 10-бальнай шкалы, прапанаванай А.Я. Лісейчыкавым. У яе аснову пакладзены чатыры ўзроўні засваення вучэбнага матэрыялу: пазнаванне, рэпрадукцыя, прымяненне, творчы перанос (Табліца 2). Як і ў любой вучэбнай дысцыпліне, адзнака залежыць ад узроўню засваення вучэбнай праграмы.

*Табліца 2*

**10-бальная шкала ацэнкі ведаў па фізічнай культуры**

| Узроўні засваення вучэбнага матэрыялу | Удасканаленая адзнака | Балы | Крытэрыі адзнакі |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Пазнаванне | 2 | 0 | Адсутнасць адказу ці адказ са шматлікімі значнымі памылкамі, якія не выпраўляюцца пры дадатковых пытаннях |
| | 3- | 1 | Пазнаванне аб'екта вывучэння; наяўнасць значных памылак пры яго апісанні, якія не парушаюць сутнасць аб'екта і не падмяняюць яго іншым аб'ектам |
| Перадача | 3 | 3 | Няпоўная перадача праграмнага вучэбнага матэрыялу; наяўнасць істотных, але папраўленых з дапамогай настаўніка памылак; няўменне прымяніць вывучанае |
| | 3+ | 4 | Няпоўная перадача праграмнага вучэбнага матэрыялу; наяўнасць папраўленых пры дадатковых пытаннях памылак; цяжкасці ў разуменні асобных паняццяў, у прымяненні вывучанага, але якія пераадольваюцца з дапамогай настаўніка; праяўленне валявых намаганняў, цікавасці да вучэння, самастойнасці, асэнсаванасці дзеянняў |
| | 4- | 5 | Перадача праграмнага вучэбнага матэрыялу, у тым ліку і рознай ступені складанасці з нязначнымі памылкамі; цяжкасці ў прымяненні вывучанага, якія пераадольваюцца з дапамогай нязначных навадных падказак настаўніка |
| Прымяненне | 4 | 6 | Поўная перадача праграмнага вучэбнага матэрыялу з нязначнымі памылкамі; прымяненне ведаў у знаёмай сітуацыі па ўзору |
| | 4+ | 7 | Валоданне праграмным вучэбным матэрыялам, у тым ліку і рознай ступені складанасці, аперыраванне ім у знаёмай сітуацыі; наяўнасць неістотных памылак пры апісанні і самастойных дзеяннях, у працэсе выкарыстання атрыманых ведаў; праяўленне імкнення да творчага пераносу ведаў, арганізаванасці, самакрытычнасці |
| | 5- | 8 | Валоданне праграмным вучэбным матэрыялам і аперыраванне ім у знаёмай і незнаёмай сітуацыі; наяўнасць адзінкавых нязначных памылак у дзеяннях, самастойна папраўных вучнямі; наяўнасць пэўнага вопыту творчай дзейнасці; праяўленне добрасумленнасці, адказнасці, самаацэнкі. |
| Творчы перанос | 5 | 9 | Свабоднае аперыраванне праграмным вучэбным матэрыялам рознай ступені складанасці ў незнаёмай сітуацыі; выкананне заданняў творчага характару |
| | 5+ | 10 | Свабоднае аперыраванне праграмным вучэбным матэрыялам рознай ступені складанасці з выкарыстаннем ведаў з іншых вучэбных курсаў і дысцыплін; уменне асэнсавана і аператыўна трасфарміраваць атрыманыя веды для вырашэння праблем у нестандартных сітуацыях; праяўленне мэтанакіраванасці, адказнасці, пазнавальнай актыўнасці, творчага стаўлення да вучэння. |

Гэтая шкала складзена паводле такіх жа падыходаў, як і дзве папярэднія. Гэта забяспечвае адзінства дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі паспяховасці па фізічнай культуры, як і па іншых вучэбных дысцыплінах.

Пры выкарыстанні названых шкал можа з'явіцца пытанне, звязанае з выніковай ацэнкай паспяховасці. Але гэтае пытанне можа з такім жа поспехам з'явіцца і пры выкарыстанні чатырохбальных шкал. Бо па дысцыпліне "Фізічная культура" адзнака заўсёды выстаўлялася паводле адзнак, атрыманых па асобных раздзелах праграмы. Гэтыя раздзелы адрозніваюцца, як ужо было сказана, па зместу вучэбнай дзейнасці і па дасягнутых выніках. Для таго, каб ацаніць паспяховасць за чвэрць ці за год, выніковыя адзнакі, атрыманыя за кожны раздзел праграмы, сумуюцца. Вучань, які атрымаў нават нездавальняючую адзнаку, напрыклад, за фізічную падрыхтаванасць, можа кампенсіраваць яе пры ўмове добрасумленнага стаўлення да заняткаў і атрымаць дастаткова высокую выніковую адзнаку.

Такім чынам, выніковая адзнака паспяховасці па дзесяцібальных шкалах толькі крыху адрозніваецца ад звыклай нам адзнакі па чатырохбальнай шкале. Але яна больш справядлівая, чым існуючая. Дазваляе больш тонка ўлічыць адрозненні дасягненняў кожнага вучня. Дае кожнаму, калі ён працуе, шанс выдзеліцца. А калі справы ладзяцца добра, то і пяцёрка будзе адрознівацца ад пяцёркі, таму што ў дужках заўсёды можна паставіць "амаль выдатна", "выдатна", "цудоўна" ці ўказаць суму балаў (8,9,10).

Праўда, настаўнікам давядзецца пераадолець інерцыю звычкі, каб перайсці на новую сістэму каардынат ацэнкі паспяховасці. Першы час гэта будзе няпроста. Трэба будзе і інстытутам павышэння кваліфікацыі папрацаваць. І ў ВНУ студэнтаў трэба вучыць па новай сістэме. Але мэта таго вартая. Вучань атрымае больш гуманную і аб'ектыўную адзнаку. Настаўнік атрымае інструмент, які дазволіць больш тонка кіраваць матывацыяй вучняў, комплексна і больш эфектыўна ацэньваць сваю работу.

**Уладзімір КРАЖ,**
**кандыдат педагагічных навук, прафесар кафедры тэорыі і методыкі фізічнага выхавання Акадэміі фізічнага выхавання і спорту, загадчык лабараторыі навукова-даследчага інстытута.**
**Зінаіда КРАЖ,**
**кандыдат педагагічных навук, дацэнт, старшы навуковы супрацоўнік навукова-даследчага інстытута.**

# Кнігі, якія паступілі ў Рэспубліканскую навукова-педагагічную бібліятэку

**571190, 571459 Архипова Е.А. Современный детский сад. Программное обеспечение: Пособие для педагогов дошк. учреждений. - Мн.: НМЦентр, 2000. -87 с. -Библиогр.: с. 85-86.**

Пособие предлагает подробный анализ комплексных и специализированных программ, их значение, описана история создания программных документов по дошкольному воспитанию; показаны отличия, недостатки и достоинства национальных, отечественных и зарубежных программ.

**570076 Ах, эти теплые встречи!..: С выпускниками, с интерес. людьми, чайн. церемониал/ Ред.-сост. Л.И.Жук. -Мн.: Красико-Принт, 2000. - 111 с. (Праздник в шк.).**

В книге представлена подборка современных сценариев проведения в школе встреч с выпускниками, с интересными людьми... Издание адресовано детям среднего и старшего школьного возраста, а также педагогам и родителям.

**571585 Бодина Е., Ащеулова К. Педагогические ситуации; Пособие для преподавателей педвузов и кл. рук. сред. шк. - М.: Шк.пресса. 2000. - 96 с. - (Б-ка журн. "Воспитание школьников", Вып. 11).**

В пособии собраны и тематически систематизированы разнообразные педагогические ситуации, даны различные варианты реагирования педагогов на шокирующие выходки школьников на уроке и вне его. Большинство ситуаций не придумано авторами, а буквально взято из жизни.

**571422 Буров Л.И., Стрельченя В.М. Физика от А до Я: Учащимся, абитуриентам, репетиторам. - Мн.: Парадокс, 2000. - 560 с. - (Эрудит).**

Книга содержит компактное изложение современного курса школьной физики, методику решения задач и разбор хитрых вопросов "на засыпку". Издание будет полезным тем, кто изучает физику, и тем, кто ее преподает, а также тем, кто готовится к экзаменам.

**571269/д Выпускной: В дет. саду. В нач. и сред. шк./ Ред. - сост. Л.И.Жук. - Мн.: Красико-Принт. 2000. - 127 с. - (Праздник в шк.).**

В издании представлена подборка современных сценариев проведения выпускных утренников в детском саду, начальной школе и выпускных вечеров в средней школе. Книга представляет интерес для педагогов, родителей, а также учащихся среднего и старшего возраста.

**571493 Грамматика русского языка для старших классов/ Сост. Л.А.Петкевич. - Мн.: ЮНИПРЕСС, 2000. - 95 с. - (Все для шк.).**

Книга включает систематизированные и обобщенные сведения по курсу русского языка. На основе школьных учебников даны материалы по всем изучаемым разделам, изложены правила, особенности синтаксиса и пунктуации.

**571203 Грымаць А. Фарміраванне маральных ідэалаў школьнікаў: Манагр. - Мн.: Геомант, 2000. - 447 с.**

У сваёй манаграфічнай працы, прысвечанай праблемам сучаснай педагагічнай навукі, аўтар ставіць і вырашае найважнейшую праблему. Што такое для людзей маральны ідэал, як ён узнікае і трансфарміруецца ў свядомасці вучняў, дапамагае ім стаць сапраўднай асобай.

**571137 Гурьянова М.П. Сельская школа и социальная педагогика: Пособие для педагогов. - Мн.: Амалфея, 2000. - 447 с.**

В пособии сельская школа рассматривается как феномен открытой социально-педагогической системы. Даны основные направления организационно-методической деятельности сельской школы, основы практической профессиональной деятельности сельского социального педагога.

**571406 Дубінін Дз.У., Дубініна Дз.М. Мая родная старонка: Дапам. для педагогаў дашк. устаноў. - Мн.: Полымя, 2000. - 120 с.: іл.**

У дапаможніку раскрываюцца асноўныя моманты патрыятычнага выхавання дзяцей сродкамі жывой спадчыны беларускага народа. Даюцца кароткія звесткі па этнаграфіі Беларусі, мастацкая літаратура і фальклор, гульні і гульневыя заданні.

**571386 Левит М.В. Как сделать хорошую школу?!: Практикоориентир. пособие по проектированию и упр. шк.. Ч.1/Центр "Пед. поиск". - М., 2000. - 160 с. - (Б-ка администрации шк.).**

В издании предпринята попытка отразить пошагово деятельность администрации школы и коллектива по созданию успешно развивающейся школы: представлены проекты школы, материалы по реализации учебных планов, развитию и воспитанию, дополнительному образованию и валеологии в школе и др.

**571077 Науменко Г.М. Фольклорный праздник в детском саду и в школе: Песни, игры, загадки, театрализация, представления в авт. записи, нот. расшифровке и ред. - М.: Linka-Press, 2000. — 222 с.**

В книге представлены разнообразные жанры русского фольклора: прибаутки, небылицы, скороговорки, игровые и плясовые песни, загадки, игры, хороводы, сценарии театрализованной сказки и фольклорных праздников, а также методика обучения детей народному пению.

**571410 Никитин Ю. Музыка: Кн. для учащихся и учителей. Смоленск: Русич, 2000. - 238 с. - (Веселый урок).**

Занимательные задачи, криптограммы, шарады, головоломки, кроссворды, предлагаемые в книге, помогут проверить знания в области музыки, а, может быть, и побудят заняться ею всерьёз. Учителям книга поможет сделать школьные занятия увлекательными, интересными и веселыми.

**570004 Обербайль К. Витамины-целители: Пер. с нем./ Сост. В.В.Шарпило. - Мн.: Парадокс, 2000. - 446 с. - (Поле чудес: здоровье).**

В предлагаемом издании приводятся малоизвестные сведения о витаминах, которые обладают поистине чудодейственными свойствами. Даны рецепты природной аптеки. Эти сведения особенно важны сегодня в пору экологических бедствий и опасного загрязнения окружающей среды.

**570897 Организация летнего досуга детей и подростков: Пособие для орг. дет.отдыха/ Н.П.Герасименко, Л.Г.Кулик, С.И.Максимович и др.; Сост. Н.И.Филимонова; Худож. В.В.Котович. - Мн.: Маст. літ., 2000. - 103 с.**

Пособие представляет собой сборник материалов по проведению игр, соревнований, конкурсов, викторин для организации воспитательной работы в детских лагерях. Учтены интересы и возможности детей и подростков. Отражены особенности современных требований к организации воспитательного процесса в детских лагерях.

**571374, 571375 Праздники в начальной школе: Сб. сценариев для проведения внекл. мероприятий/ Сост. И.В.Грузина, - М.: Издат-Школа, 2000. - 160 с.**

Дети младшего школьного возраста испытывают потребность в ярких, красочных событиях, которые делают их жизнь радостной, развивают творчество, фантазию. В сборнике представлен опыт школы №825 г.Москвы по проведению творческих дел.

**571135, 571136 Проблемы воспитания и обучения детей/ Могилев. гос. ун-т; Сост. А.В.Даниленко, - Могилев, 2000. - 48 с.**

В издании представлены статьи по следующим темам: конфликтология, дети и семейные конфликты, диагностика и оптимизация готовности к обучению в школе, игра и психическое развитие ребенка, развитие познавательной активности школьников, психическое развитие детей детских домов и школ-интернатов и др.

**571439 Савиных В.П.Прекрасные превращения: Пособие для учителей, воспитателей, рук. кружков и родителей. - Мн.: Беларусь, 2000. - 110 с.: ил.**

Занятия декоративно-прикладным творчеством развивают у детей фантазию, образное мышление, прививают им необходимые умения и навыки. Изделия, выполненные учащимися своими руками украсят любой интерьер, будут хорошим подарком.

**571496 Савко И.Э.Весь школьный курс русского языка: Пособие для учащихся ст. кл. и абитуриентов. - 3-е изд., испр. и доп. - Мн.: Соврем. литератор, 2000. - 767 с.**

Пособие рассчитано на закрепление, систематизацию и углубление знаний по курсу русского языка. В приложении представлены краткие сведения об известных русских языковедах, особое внимание уделено их вкладу в развитие отечественной лингвистики.

**571058 Сад для развития чувств: К вопр. о целостности экол. воспитания и воспитания любви к природе/ Респ. экол. центр учащихся М-ва образования Респ. Беларусь. - Мн., 2000. — 35 с.**

Предлагаемое издания познакомит с мероприятиями и упражнениями по экологическому воспитанию школьников, с созданием Сада чувств в биологическом центре Гонновера.

**571508 Сборник диктантов по русскому языку для учащихся 5 — 11 классов / Авт. - сост. Р.П.Кадырко. - Мн.: ЮНИПРЕСС, 2000. - 351 с.**

Цель сборника — помочь учителю русского языка в подборе текстового материала для уроков. Тексты взяты из произведений русской классической литературы, из художественной прозы современных русских писателей и периодической печати. Тексты различны по своей трудности.

**571387 Созонов В.П. Организация воспитательной работы в классе: Метод. пособие для кл. рук. - М.: Центр "Пед. поиск", 2000. - 160 с.**

В пособии дано теоретическое обоснование сущности процесса воспитания, рассматриваются все составляющие деятельности классного руководителя: цели, обязанности, права, управление воспитательным процессом, документация, классные часы, аттестация и т.д.

**571409 Торхова А.В. Художественное краеведение в воспитании школьников: Пособие для педагогов. - Мн.: Беларусь, 2000. - 126 с.**

Автор рассматривает объекты художественного краеведения, особенности организации различных видов художественно-краеведческой деятельности учащихся, раскрывает механизмы построения системы нравственно-эстетического воспитания в школе.

**571450 Тютюнникова Т.Э. Уроки музыки. Система обучения К.Орфа. - М.: АСТ; Астрель, 2000. - 95 с.: ил. - (Родничок).**

Автор размышляет, полемизирует, сомневается, но убедительно и интересно обосновывает активный подход к обучению музыке в 1 — 4 классах общеобразовательной школы. Книга содержит материал для музицирования, а также советы и методические рекомендации опытного педагога-практика.

**571404 Фядотаў А.Г. Свята беларускага пісьменства ў школе: Дапам. для настаўнікаў, выхавацеляў, арганізатараў пазакл. выхаваўч. работы. - Мн.: Беларусь, 2000. - 55 с.**

Самаахвярная дзейнасць беларускіх першаасветнікаў, увасобленая ў яскравай святочнай кампазіцыі, здольна адыграць значную ролю ў фарміраванні духоўных каштоўнасцей падрастаючага пакалення. Дапаможнік прапануе рэкамендацыі і фрагменты сцэнарных распрацовак для стварэння свята беларускага пісьменства ва ўмовах агульнаадукацыйнай школы.

**571041/д Часы веселых затей: День смеха. КВН/ Ред. - сост. Л.И.Жук. - Мн.: Красико-Принт, 2000. - 128 с. (Праздник в шк.).**

В книге представлена широкая подборка современных сценариев Праздника юмора: Праздник смеха, Веселый балаган, Не в бровь, а в глаз, Конкурсы-приколы, В стране "Веселых человечков". Издание адресовано педагогам, учащимся, родителям.

